МІЖНАРОДНАЕ ГРАМАДСКАЕ АБ'ЯДНАННЕ "ЗГУРТАВАННЕ БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ "БАЦЬКАЎШЧЫНА"

№11 (127)
лістапад 2012

# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ

ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ



## У НУМАРЫ:

### БЕЛАРУСЫ АДЗНАЧЫЛІ ДЗЕНЬ ГЕРОЯЎ

Беларусы свету адзначылі 92-я ўгодкі Слуцкага збройнага чыну.

*Працяг на стар. 3*

### У МІНСКУ АДБЫЛАСЯ ПРЭЗЕНТАЦЫЯ АЎДЫЁКНІГІ ЎСПАМІНАЎ ГЕНІЮШ

6 лістапада ў Мінску ў галерэі "Ў" адбылася прэзентацыя аўдыёкнігі "Птушкі без гнёздаў".

*Працяг на стар. 4*

### У ІРКУЦКАЙ ВОБЛАСЦІ САБРАЛІ ЎРАДЖАЙ ПА-БЕЛАРУСКУ

У вёсцы Васільеўск прайшоў традыцыйны беларускі абрад "Дажынкі".

*Працяг на стар. 5*

### КАСТРЫЧНІЦКАЯ ІМПРЭЗА Ў ТБК ЛІТВЫ

27 кастрычніка ў ТБК адбылася чародная імпрэза, прысвечаная ўшанаванню памяці і ўспамінам пра культурных і грамадскіх дзеячаў, юбілеі якіх прыпадаюць на кастрычнік і чый лёс быў звязаны з Вільняй і Беларуссю.

*Працяг на стар. 6*

НАВІНЫ МГА "ЗБС "БАЦЬКАЎШЧЫНА"

## ЯЎГЕНУ ВАПУ АДМОЎЛЕНА Ў АТРЫМАННІ БЕЛАРУСКАЙ ВІЗЫ

Сябру Вялікай Рады МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" Яўгену Вапу ў чарговы раз было адмоўлена ў атрыманні ўязной візы ў Беларусь. 20 лістапада Яўген Вапа ў Консульстве Беларусі ў Беластоку атрымаў пашпарт са штампам "адмоўлена". Дакументы на атрыманне беларускай візы афармляліся на запрашэнне МГА "ЗБС "Бацькаўшчына".



*Яўген Вапа*

Па словах старшыні Рады МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" Ніны Шыдлоўскай: "Першая адмова ва ўездзе ў Беларусь была зробленая спадару Яўгену ў мінулым годзе. Тады таксама, як і цяпер, "Бацькаўшчына" рабіла запрашэнне сябру Вялікай Рады, старшыні Саюза беларусаў у Польшчы, сябру Кансультатыўнай рады па справах беларусаў замежжа пры Міністэрстве культуры Яўгену Вапу. І, не зважаючы на ўсе гэтыя агучаныя мною пасады і рэгаліі, віза была ануляваная".

Ніна Шыдлоўская кажа, што адмоўны вынік у атрыманні візы здзіўляе і абурае, хаця ў пэўным сэнсе і быў прадбачаным.

3 снежня МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" атрымала адказ на звароты ў МЗС адносна магчымасці выдачы ўязных віз у Беларусь сябрам Вялікай Рады МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" Яўгену Вапу і Лене Глагоўскай.

Нагадаем, што Старшыні Беларускага культурнага таварыства "Хатка" ў Гданьску Лене Глагоўскай без тлумачэння прычынаў было адмоўлена ў атрыманні беларускай візы ў кастрычніку гэтага года ў беларускім консульстве ў Беластоку. Лена Глагоўская збіралася прыехаць у Гродна для ўдзелу ў Міжнароднай канферэнцыі "Людзі даўняй Гародні", арганізаванай Таварыствам беларускай школы.

У лісце за подпісам намесніка Міністра замежных спраў А.М. Купчына, гаворыцца, што "Міністэрства замежных спраў разгледзела звароты МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" адносна выдачы ўязных віз грамадзянам Рэспублікі Польшча Я. Вапу і Л. Глагоўскай і паведамляе аб немагчымасці станоўчага вырашэння гэтага пытання".

Ніна Шыдлоўская пракаментавала адказ МЗС наступным чынам: "Сітуацыя, на наш погляд, вельмі недарэчная і прыкрая. Цяжка зразумець, чаму ў Беларусь, на этнічную радзіму, не пускаюць людзей, якія, жывучы за мяжой, не толькі не забываюць пра свае карані і сваю Бацькаўшчыну, але і прыкладаюць вельмі шмат намаганняў дзеля папулярызацыі беларускай культуры ў Польшчы. Менавіта дзякуючы такім людзям як Яўген Вапа і Лена Глагоўская сёння можна гаварыць пра існаванне беларускай меншасці ў Польшчы. Безумоўна, нас вельмі непакояць такія рашэнні беларускіх дзяржаўных органаў, асабліва ўлічваючы, што ў наступным годзе Згуртаванне "Бацькаўшчына" ладзіць Шосты з'езд беларусаў свету. Яўген Вапа і Лена Глагоўская – сябры Вялікай Рады "Бацькаўшчыны", знакавыя асобы для беларускай дыяспары, чыя прысутнасць на з'ездзе неабходная".

6 снежня стала вядома, што ва ўязной візе адмоўлена таксама сябру Вялікай Рады МГА "ЗБС "Бацькаўшчына", старшыні Таварыства беларускай культуры ў Літве Хведару Нюньку.

*Паводле "Радыё Рацыя", ул. інф.*

## ВІНШУЕМ З ДНЁМ ГЕРОЯЎ!

27 лістапада адзначаецца Дзень Герояў – пачатак Слуцкага збройнага чыну. У гэты дзень у 1920-м годзе першы Слуцкі полк Беларускай Народнай Рэспублікі ўступіў у бой з бальшавікамі за незалежнасць Беларусі.

На Случчыне традыцыйна існаваў моцны асяродак нацыянальна-вызвольнага руху. Некалькі тысячаў чалавек адгукнуліся на заклік Рады Случчыны распачаць збройнае паўстанне супраць чужынцаў. Яны мужна і самаахвярна змагаліся, іх шырока падтрымлівала мясцовае насельніцтва, але сілы былі няроўныя. Паўстанне працягвалася да канца снежня, калі войскі Случчыны ўрэшце вымушаны былі адступіць.

Нягледзячы на паразу Слуцкага збройнага ўздыму, гэтая падзея сведчыць пра імкненне беларускага народа да незалежнасці, яго рашучасць у змаганні за волю.

Управа МГА ”Згуртаванне беларусаў свету ”Бацькаўшчына” віншуе ўсіх беларусаў з Днём Герояў і зычыць, каб ніякія перашкоды не маглі змусіць вас саступіць са шляху да свабоды!

Слава Героям!

*Управа МГА “ЗБС “Бацькаўшчына”*

## БЕЛАРУСЫ АДЗНАЧЫЛІ ДЗЕНЬ ГЕРОЯЎ У ЛОНДАНЕ

У суботу 24 лістапада беларуская грамада ў Вялікабрытаніі адзначыла 92-я ўгодкі Слуцкага збройнага чыну — Дзень Герояў. На святкаванні аднаго з найстарэйшых святаў беларускай эміграцыі ў Беларускім доме ў цэнтральнай частцы Лондана пабываў карэспандэнт ”Тут і цяпер”.

Лондан паступова апаноўвае традыцыйнае ангельскае надвор'е. На даволі зацішнай, асабліва ў выходны дзень, вуліцы Пэн-Роад вось ужо 64 гады месціцца легендарны Беларускі дом. Пасля заканчэння Другой сусветнай вайны Вялікабрытанія стала адной з тых заходніх дзяржаваў, што адчыніла межы для беларусаў, якія не бачылі будучыні ў краіне Саветаў. У 1946-м паўстала Згуртаванне беларусаў у Вялікабрытаніі, што існуе дагэтуль. Трохі болей за два гады спатрэбілася тагачасным беларусам, каб ”усім светам”, фунт да фунта, сабраць грошы на набыццё нерухомасці. Паводле аўтаркі манументальнага даследавання ”Беларусы ў Вялікабрытаніі” Наталлі Гардзіенкі, гэты будынак стаў ”першай афіцыйнай уласнасцю беларусаў у Заходнім свеце”.

Як і паўстагоддзя таму, сёння тут базуецца Згуртаванне беларусаў Вялікабрытаніі, якое ад самага пачатку сярод іншага адказнае і за арганізацыю штогадовых урачыстасцяў з нагоды двух найбуйнейшых свецкіх святаў нашай эміграцыі — Дня Волі (25 сакавіка) і Дня Герояў (27 лістапада).

“У гэтым самым будынку, у той самай зале, што і цяпер, з пачатку 1940-х адбываліся ўсе асноўныя беларускія мерапрыемствы. Ушанаванне герояў-случчакоў займала сярод іх адно з цэнтральных месцаў”, — расказвае айцец Аляксандр Надсан, які быў якраз сярод тых, хто займаўся набыццём “першай афіцыйнай уласнасці беларусаў у Заходнім свеце”. Цікава, што сам ён даведаўся пра Слуцкае паўстанне ад свайго бацькі. Афіцэр яшчэ царскага войска, той браў чынны ўдзел у гераічных падзеях восені 1920-га. “Нават ездзіў на перамовы з палякамі”, — дадае Надсан.

Як вядома, Слуцкае паўстанне скончылася паразай беларускіх незалежніцкіх сіл. Бальшавікі замардавалі амаль усіх ягоных лідараў. “Аднак адны паразы прыводзяць да дэмаралізацыі, другія — натхняюць. Слуцкі збройны чын стаў надзвычайным прыкладам для многіх пакаленняў беларусаў у даўгім ланцугу змагання за вольную і незалежную Беларусь”, — адзначыў у часе гістарычнага экскурсу ў падзеі амаль векавой даўніны прадстаўнік Згуртавання беларусаў Вялікабрытаніі Мікола Пачкаеў.

“Усе мы Случчакі ў гэты восеньскі месяц. Жыве Беларусь!” — прамовіла ў традыцыйным пасланні да суродзічаў у цэлым свеце Старшыня Рады БНР Івонка Сурвілла.

Потым быў яшчэ прагляд дакументальнага фільма ”Слуцкі збройны чын”, традыцыйнае спяванне гімна беларускай эміграцыі ”Мы выйдзем шчыльнымі радамі” ды цёплая сяброўская размова.

Магістранта Лонданскай школы эканомікі Алеся Аляхновіча, які прыехаў сюды навучацца з Польшчы, найбольш уразіла прысутнасць сярод удзельнікаў урачыстасці прадстаўнікоў старой, паваеннай хвалі эміграцыі. “У гэтых некалькіх чалавек беларушчына натуральная: духоўна, моўна, культурна. У той жа Польшчы пераважная большасць беларусаў авалодала беларускай мовай ужо ў свядомым узросце...” На думку Алеся, наяўнасць прадстаўнікоў розных узроставых катэгорый ёсць доказам сувязі ды пераемнасці пакаленняў у эміграцыі.

Пакуль гэта так, ёсць спадзеў, як выказалася шматгадовая старшыня Згуртавання беларусаў Вялікабрытаніі Лёля Міхалюк, “што прыйдзе час, калі Дзень Герояў стане афіцыйным святам у Рэспубліцы Беларусь”.

*Паводле svabodaby.net*

*Цалкам артыкул чытайце на zbsb.org*

## УШАНАВАННЕ ПАМЯЦІ СЛУЦКІХ ПАЎСТАНЦАЎ У БЕЛЬГІІ

Святкаванне 92-х угодкаў Слуцкага збройнага чыну ў Беларускай грамадзе Антверпена пачалося з творчай вечарыны беларускага музыкі Змітра Вайцюшкевіча 25 лістапада.



Падчас вечарыны была зачытаная віншавальная заява ад Старшыні Рады Беларускай Народнай Рэспублікі спадарыні Івонкі Сурвіллы.

30 лістапада з ініцыятывы актывіста Беларускай Нацыянальнай Памяці Сяржука Пашкевіча беларусы Бельгіі і Францыі наведалі помнік ў гонар слуцкіх паўстанцаў каля горада Мітэнвальд у Альпах. Помнік быў пастаўлены ў 1948 годзе беларускімі ўцекачамі.

Ля абеліску слуцкім змагарам святар Беларускай уніяцкай Царквы ў Антвэрпене Ян Майсейчык адслужыў заўпакойную літію за душы тых, хто паклаў сваё жыццё за волю і незалежнасць Бацькаўшчыны пад Слуцкам у 1920 годзе.

З кароткай прамовай выступіў Радны БНР Зміцер Піменаў і актывіст Беларуска-Еўрапейскага Задзіночання Павал Хівук. Выступоўцы адзначылі важнасць ушанавання кожнага беларускага героя, які ахвяраваў сваё жыццё за будучыню нашай Бацькаўшчыны, а таксама звярнулі ўвагу на тое, што абавязак кожнага сумленнага Беларуса – пакінуць добры след і добрую памяць аб Беларусі на чужыне.

Арганізатары святочнай вечарыны і паездкі ў Альпы выказваюць падзяку ўсім беларусам, што спрычыніліся да арганізацыі святочных мерапрыемстваў.

*Паводле bielarus.eu*

# ВІЛЕНСКІ МЕМАРАНДУМ

3 лістапада ў Вільні прайшла сустрэча кіраўніцтва Рады БНР з лідарамі палітычных партый і грамадскіх арганізацый.

Мэтай нарады, як паведамляецца на старонцы Рады БНР у Фэйсбуку, была ”выпрацоўка захадаў у справе забеспячэння абароны незалежнасці Беларусі”.

У паведамленні адзначаецца, што ”ўдзельнікі сустрэчы адзначылі небяспеку палітыкі самаізаляцыі і знішчэння беларускай нацыянальнай свядомасці, пацвердзілі, што неабходнай зарукай для забеспячэння беларускага нацыянальнага суверэнітэту ёсць дэмантаж аўтарытарнага рэжыму А. Лукашэнкі. Як першачарговыя мэты былі названыя неадкладнае вызваленне палітвязняў і спыненне палітычных рэпрэсіяў”.

Вынікам сустрэчы стаў Мемарандум, дзе былі вызначаныя кірункі сумеснай дзейнасці. У Мемарандуме гаворыцца, што ”ўдзельнікі нарады з Беларусі пацвярджаюць прызнанне Рады БНР у яе статутнай ролі непартыйнага, надпалітычнага органу беларускай дзяржаўнасці” і ”да часу надыходу статутных умоваў складання Радай свайго гістарычнага мандату, гэта значыць абрання дэмакратычнай улады на свабодных выбарах, пры гарантаванай дзяржаўнай незалежнасці, прадстаўнікі беларускай палітычнай і грамадзянскай супольнасці прызнаюць Раду БНР рэзервовым палітычным дэпазітарыем беларускай незалежнай дзяржаўнай традыцыі. Старшыня і сябры Рады БНР пацвярджаюць аддаласць Рады мэце спаўнення свайго статутнага мандату”.

Дакумент у Вільні падпісалі: Уладзімір Барадач (Аргкамітэт Рады нацыянальнага адраджэння), Вінцук Вячорка (Аргкамітэт ”Беларускага Руху”), Аляксандр Дабравольскі (АГП), Мікола Дземідзенка (”Малады Фронт”), Уладзімір Колас (Рада беларускай інтэлігенцыі), Вольга Карач (грамадзянская кампанія ”Наш Дом”), Аляксандр Мілінкевіч (рух ”За свабоду”), Станіслаў Шушкевіч (БСДГ), Аляксей Янукевіч (партыя БНФ), ад імя Рады БНР — Івонка Сурвілла. Пазней да Мемарандума далучыліся КХП-БНФ, кампанія ”Гавары праўду” і БХД. Дакумент таксама быў ухвалены палітычнай радай АГП.

Партыя левых ”Справядлівы свет” і грамадзянская кампанія ”Еўрапейская Беларусь” адмовіліся падпісваць Мемарандум.

Поўны тэкст выніковага Мемарандуму, прынятага ў Вільні 3 лістапада, апублікаваны на старонцы Рады БНР у Фэйсбуку.

*Паводле nn.by, “Радыё Свабода”*

# У ВЯЛІКАБРЫТАНІІ АДНАВІЎСЯ ЧАСОПІС ПА БЕЛАРУСІСТЫЦЫ

Новы нумар “The Journal of Byelorussian Studies” (“Часопіс беларускіх даследаванняў”) мае выйсці ў студзені–лютым 2013 года.

Як паведамляе “Белсат”, “The Journal of Byelorussian Studies” упершыню выйшаў у 1965 годзе і друкаваўся раз на год.

Прадмову да першага нумара напісаў прафесар Оксфардскага ўніверсітэта Роберт Оці (Robert Auty).

Выданне распаўсюджваецца сярод універсітэтаў, бібліятэк і прыватных падпісантаў у Вялікабрытаніі, ЗША, Беларусі ды іншых краінах па ўсім свеце. Кожны нумар змяшчае артыкулы пра беларускую літаратуру, лінгвістыку, гісторыю і мастацтва, а таксама агляды кніг, хроніку сучасных падзеяў і шырокую бібліяграфію за папярэдні год.

Часопіс выдаюць супольна Англа-беларускае таварыства і Цэнтр транзіцыйных даследаванняў (Centre for Transition Studies) у Лондане.

Рэдагуе яго выпускнік Гарварда, кандыдат юрыдычных навук Яраслаў Крывой. У рэдакцыйны камітэт таксама ўваходзяць прафесар Арнольд МакМілін (Arnold McMillin) і Джым Дынглі (Jim Dingley). А ў кансультацыйную раду выдання — айцец Аляксандар Надсан (Вялікабрытанія), доктар Андрэй Катлярчук (Швецыя), доктар Курт Вулхайзер (Curt Woolheiser, ЗША), доктар Дэйвід Марплз (David Marples, Канада), доктар Ірына Дубянецкая (Беларусь) і доктар Марцін Паўльсэн (Martin Paulsen, Нарвегія).

Гэта найстарэйшае англамоўнае перыядычнае выданне, прысвечанае даследаванням у беларускай тэматыцы. Сёння часопіс выдаецца на ангельскай ды беларускай мовах і мае электронную версію.

Як паведаміў у Фэйсбуку рэдактар выдання, “The Journal of Byelorussian Studies” пачынае выходзіць пасля 24-гадовага перапынку. Цяпер прымаюцца новыя заяўкі, дэдлайн — 20 снежня.

*svaboda.org*

# V КАНГРЭС БЕЛАРУСАЎ ЕЎРОПЫ І ЗША Ў ТАЛІНЕ

Сустрэча прадстаўнікоў беларускай дыяспары ўжо стала добрай традыцыяй. V Кангрэс новай беларускай дыяспары Еўропы і ЗША і дэмакратычных сілаў Беларусі ў Таліне сабраў амаль 50 удзельнікаў.

Арганізатарам выступіла супольнасць “Трэці шлях” у супрацы з беларускімі арганізацыямі Эстоніі, Польшчы, Нідэрландаў, Літвы, Расіі, Нямеччыны і Чэхіі.



Палітычныя і грамадскія актывісты з самой Беларусі і з замежжа сабраліся разам, каб абмеркаваць стан, у якім знаходзіцца Беларусь на сённяшні дзень, і вызначыць кірункі супольнай працы на найбліжэйшыя два гады ў кантэксце будучых прэзідэнцкіх выбараў 2015 года. У другі дзень Кангрэса ўдзельнікі падзяліліся на працоўныя групы і абмеркавалі пытанне стварэння пляцоўкі для інтэрнэт-выбараў і агульнай працы арганізацый дыяспары.

Увечары 23 лістапада ўдзельнікі Кангрэса наведалі адкрыццё сюррэалістычнай мастацкай выставы беларускі Таццяны Дзянісавай “На мяжы сну і рэальнасці”.

У дыскусіях удзельнічалі такія грамадскія і палітычныя дзеячы як Паўлюк Быкоўскі, Алесь Міхалевіч, Алесь Зарэмбюк, Вольга Абрамава, Юры Чавусаў, Юры Губарэвіч ды іншыя. Таксама ўдзел узялі актыўныя прадстаўнікі грамадзянскай супольнасці Украіны і Расіі (Андрэй Ігнатаў, Наталля Давыдава і Уладзімір Шмялёў), каб падзяліцца досведам тактык працы апазіцыі і ўладаў у параўнанні з сітуацыяй у Беларусі.

*Паводле nn.by і Крысціны Карчэўскай*

## ЗАЎВАГА

У мінулым нумары бюлетэня “Беларусы ў свеце” (№ 126) у артыкуле “Жнівеньскае зацішша” (сс. 4–5) выяўленыя некаторыя недакладнасці.

Прозвішча “Вогнішчаў” варта чытаць як “Кастроў”, а спалучэнне “Беларусі СК” – як “СУ СК”.

Прыносім прабачэнне.

*Інфармацыйны цэнтр*
*МГА “ЗБС “Бацькаўшчына”*

# У Мінску адбылася прэзентацыя аўдыёкнігі ўспамінаў Ларысы Геніюш

6 лістапада ў Мінску ў галерэі “Ў” адбылася прэзентацыя аўдыёкнігі “Птушкі без гнёздаў”. Успаміны Ларысы Геніюш агучыла Зінаіда Бандарэнка, народная артыстка Беларусі. Аўдыёкніга выдадзеная ў межах праекта Беларускага гістарычнага таварыства ў Польшчы і Беларускай інтэрнэт-бібліятэкі Kamunikat.org “Памяць па-над часам і межамі”.

У хуткім часе аўдыёкніга будзе даступная для запампоўкі з сайта электроннай бібліятэкі “Камунікат”.

Імпрэзу адкрываў праграмны дырэктар “Радыё Рацыя“ Яраслаў Іванюк, які расказаў, што ўспаміны Геніюш неўзабаве будуць перакладзеныя на польскую мову Чэславам Сэнюхам. Кніга выйдзе з каментарамі і фотаздымкамі, некаторыя з якіх раней нідзе не публікаваліся. Частку гэтых здымкаў маглі пабачыць наведнікі імпрэзы ў галерэі “Ў”.

Яраслаў Іванюк падзякаваў сям’і Ларысы Геніюш, якая вельмі дапамагла ў ажыццяўленні праекта, а таксама ўсім, хто так ці інакш спрычыніўся да выдання аўдыёкнігі.

Міхась Скобла, які шмат гадоў даследуе творчасць Ларысы Геніюш, у сваім выступе зазначыў, што колькі перавыданняў яе кніг ні рабіць, яны ніколі не будуць лішнімі. Яе кніг не знойдзеш у букіністах.

Каб акунуцца ў атмасферу тых часоў, пра якія апавядае Геніюш, Міхась Скобла зачытаў фрагмент з яе ліста да Зоські Верас (між імі была вялікая перапіска). У ім гаворыцца пра нагляд за іх перапіскай з боку спецслужбаў, якія нават самыя нявінныя лісты доўга вывучаюць і затрымліваюць у сябе, а пасля, магчыма, выкарыстоўваюць у сваіх мэтах.




*Яраслаў Іванюк, Зінаіда Бандарэнка, Міхась Скобла*

Зінаіда Бандарэнка расказала пра тое, як працавала над праектам. Праца гэтая, адзначае яна, настолькі ўзнёслая і адказная, што нават праз столькі часу яна ўсё яшчэ жыве гэтым. Зінаіда Аляксандраўна заўважыла, што на гэтую працу атрымала дабраславенне айца Юрыя, і гэта дало ёй сілы. Працаваць было цяжка і з тэхнічнага боку: пасля трох-чатырох гадзінаў начыткі голас пачынае садзіцца.

Зінаіда Бандарэнка выказала спадзяванне, што моладзі будзе цікавая аўдыёкніга з успамінамі Ларысы Геніюш.

Аўтар некаторых архіўных здымкаў з Ларысай Геніюш, якія былі паказаныя публіцы падчас імпрэзы, паэт Сяргей Панізнік, прачытаў верш “Вячэрня ў Зэльве” са свайго новага зборніка “Нас многа!”

Напрыканцы імпрэзы слова далі прысутным. У прыватнасці, выступіў Генадзь Бураўкін, які сказаў колькі словаў пра Ларысу Антонаўну Геніюш, назваўшы яе адной з самых светлых і пакутных жанчын у нашай гісторыі, пачынаючы ад Ефрасінні Полацкай. Ён заклікаў берагчы нашую святую памяць і назваў выданне аўдыёкнігі частковым выкупленнем віны перад Ларысай Геніюш. Закончыўшы прамову, Генадзь Бураўкін выказаў захапленне працай Зінаіды Бандарэнкі і ўручыў ёй кветкі.

Завяршыла праграму музычная праграма: песні на словы Геніюш спявалі барды Алесь Камоцкі і Алеся Сівохіна.

*Інфармацыйны цэнтр МГА “ЗБС “Бацькаўшчына”*

# У Вільні зноў працуе беларуская гімназія

Адзіная беларускамоўная школа ў Літве ў кастрычніку прайшлі два туры акрэдытацыі, і цяпер у Вільні ёсць беларускамоўная гімназія імя Францішка Скарыны. Адзін з ініцыятараў стварэння школы, які і цяпер працуе над развіццём установы, – ураджэнец мястэчка Вішнева Валожынскага раёна Раман Вайніцкі.

Віленскую беларускую гімназію заснаваў вядомы грамадскі дзеяч Іван Луцкевіч у 1919 годзе. Дзейнічала яна да чэрвеня 1944 года, пакуль у Літве не аднавілася савецкая ўлада.

Некалькі дзесяцігоддзяў беларускамоўнай агульнаадукацыйнай установы ў Літве не было – аж да пачатку 1990-х гадоў.

Беларускі перакладчык і журналіст Сяргей Шупа ў 1991 годзе напісаў заяву міністру адукацыі Літвы, у якой адзначыў, што, згодна з Канстытуцыяй Літвы, яго сын мае права вучыцца на роднай мове. Так стала магчымым стварыць беларускую школу.

“У той час ніхто не верыў, што беларускамоўная школа можа паўстаць на Літве”, – прыгадвае Раман Вайніцкі, намеснік дырэктара школы, які аднначасова з’яўляецца прэзідэнтам згуртаванняў беларускіх грамадскіх арганізацый у Літве.

Летась беларуская школа у рэйтынгу ўсіх школ Літвы заняла сёмае месца, сярод школ Вільні – пятае, а сярод школ нацыянальных меншасцяў – першае.

Пры гэтым навучанне адбываецца на беларускай мове, а іспыты вучні здаюць па-літоўску, і не ў сваёй школе, а ў адукацыйных цэнтрах.

У гімназіі толькі літоўскую мову выкладаюць літоўцы, астатнія прадметы – мясцовыя беларусы. Дарэчы, установа ўжо сама забяспечвае сябе кадрамі – два гады настаўніцай працуе былая выпускніца беларускай школы, якая па нацыянальнасці – літоўка.

Установа працуе па адаптаванай літоўскай вучэбнай праграме, а падручнікамі карыстаюцца беларускімі. Але амаль усе падручнікі, якія мае адзіная беларускамоўная гімназія ў Літве, – 1994 года. Пра складанасці расказвае Раман Вайніцкі: “Калі існавала праграма “Беларусь – Швецыя”, мы рэгулярна атрымлівалі падручнікі, метадычную літаратуру. Раней намі займалася Міністэрства адукацыі Беларусі, а цяпер ніхто не займаецца. Але дзякуючы Мінскаму гарадскому выканкаму мы маем аўтобус, на якім можам ездзіць на экскурсіі. У гэтым месяцы запланаваная экскурсія ў Полацк, каб нашы вучні пабачылі на свае вочы горад, у якім жыў Францішак Скарына”.

*Паводле westki.info*
*Цалкам артыкул чытайце на zbsb.by*

# У ІРКУЦКАЙ ВОБЛАСЦІ САБРАЛІ ЎРАДЖАЙ ПА-БЕЛАРУСКУ

З песнямі, карагодамі, танцамі і правядзеннем спецыяльнага рытуалу адзначылі свята ўраджаю ў Баяндаеўскім раёне Іркуцкай вобласці. У вёсцы Васільеўск прайшоў традыцыйны беларускі абрад "Дажынкі". Жанчыны ў святочных уборах, узброіўшыся сярпамі, па старадаўніх звычаях зжыналі апошняе поле пшаніцы і вязалі снапы. Паспрабаваць уласныя сілы ў гэтай няпростай працы і аддаць сваю даніну старадаўняй традыцыі змаглі ўсе ахвочыя.

Вёска Васільеўск невыпадкова была выбраная для правядзення старадаўняга абраду "Дажынкі". Гэта паселішча, як і суседнія Тургенеўка і Лідзінск, было заснаванае беларускімі перасяленцамі. Таму тут імкнуцца захаваць традыцыі і звычаі беларускага народа.

Свята, на якое сабраліся жыхары навакольных вёсак, праводзілася на пшанічным полі. Маляўнічая дзея адбывалася паводле старажытных абрадавых традыцый. Да поля жнеі падышлі з народнымі песнямі. Пасля гэтага ўзяліся за асноўную працу. Згодна з традыцыяй, першай пачала старэйшая жняя. Яна размяркоўвала ўдзельніц рытуалу ў залежнасці ад узросту, паспяховасці ў працы. Уся цяжкая, знясільваючая праца суправаджалася песнямі. Мужчынам удзельнічаць забаранялася. Шмат хто ў першы раз паспрабаваў асвоіць гэтае рамяство.

Пасля праведзенага паводле ўсіх



канонаў рытуалу ўдзельнікі водзяць вакол снапоў карагоды, спяваюць песні і выбіраюць сноп-гаспадар і вянок. Іх урачыста ўручаюць гаспадарам поля – Віктару Здышаву, старшыні раённай думы, і Тацццяне Крапуста. Яны павінны захоўваць гэтыя сімвалічныя знакі да наступнага ўраджаю, калі зноў будзе праведзены беларускі абрад. Каб аддзячыць работнікам, гаспадары запрашаюць усіх да стала і частуюць смачнай і сытнай вячэрай.

Наталля Умнова і Надзея Булычова, жыхаркі вёскі Тургенеўкі, распавялі, што ў паселішчы імкнуцца захаваць беларускія традыцыі і мову.

"У нашым ансамблі "Варэнічкі" мы выконваем 28 беларускіх песень, развучваем народныя танцы. Больш за палову насельніцтва Тургенеўкі – гэта беларусы. Мы адзначаем паводле сваіх абрадаў Купалу, "Гуканне вясны", Каляду, якая ў нас называецца Шчадрухай, і іншыя святы. Увосень у нас праходзіць яшчэ адно свята – "Бульбяш", яно прысвечанае бульбе. Сёння засталося ўжо мала старажылаў, якія свабодна гавораць па-беларуску. Мы вывучаем родную мову самастойна: вучым словы, народныя прыказкі, прымаўкі, казкі. Нашыя дзеці гэта пераймаюць ужо ад нас. Дарэчы, сярпамі мы карыстаемся да гэтага часу. Праўда, ужо ў хатняй гаспадарцы – зразаючы крапіву і дробную траву. Цяпер серп ужо лічыцца рарытэтам, а для нас гэта сапраўдная прылада працы".

*Паводле Лідзіі Гергесавай*
*"СМ Номер один" № 40 – 2012*
*Цалкам артыкул чытайце на zbsb.org*

# АЛЕСЬ АРКУШ ПРЭЗЕНТАВАЎ У ВАРШАВЕ "ПАЛІМПСЕСТ"

У Варшаве паэт Алесь Аркуш прэзентаваў сваю кнігу прозы "Палімпсест". Акрамя самога аўтара ў сустрэчы з чытачамі прынялі ўдзел пісьменнік Юры Гумянюк і літаратуразнаўца Тацццяна Нядбай. Сам Алесь Аркуш называе свой аўтабіяграфічны раман сур'ёзным і адначасова хуліганскім творам: "Я ўжо ў такім узросце, што прыйшоў час буйныя творы пісаць, а не проста вершы. Часам кажуць паэтам, вось там нашкрабалі некалькі радкоў, раман напісаць – гэта не нашкрабаць, гэта сур'ёзна. Прынамсі мне самому падабаецца гэты раман, мне здаецца, ён атрымаўся".

Раман "Палімпсест" пачаў серыю выдавецтва "ГАЛІЯФЫ": "Бібліятэка Таварыства Вольных Літаратараў", якому ў наступным годзе будзе ўжо 20 гадоў. Арганізатарам прэзентацыі з'яўляецца арганізацыя "Беларуская Нацыянальная Памяць".

*racyja.eu*

# ДЗЕНЬ НАРОДЗІНАЎ ЯНКІ КУПАЛЫ Ў КАЛІНІНГРАДЗЕ І КІШЫНЁВЕ

Дзень народзінаў Янкі Купалы, які ператварыўся ў сапраўдны вечар беларускай культуры, сабраў у Калінінградзе паўтары сотні цікаўных гледачоў 18 лістапада.

Абвяшчаючы пачатак мерапрыемства, кіраўнік аб'яднання беларусаў у Калінінградзе Ігар Шаховіч паклікаў на сцэну класіка беларускай літаратуры Генадзя Бураўкіна, які і адкрыў сваёй урачыстай прамовай святочны канцэрт.

Цягам амаль трох гадзін на сцэне выступілі расійскія, украінскія і нават літоўскія калектывы, а "закрывалі" мерапрыемства малады паэт Віталь Рыжкоў, бард Алесь Камоцкі, а таксама гурт "Рэха" з Андрусём Такіндангам.

"Уражвае колькасць цікаўных да беларускай культуры людзей у расійскім Калінінградзе, дзеліцца ўражаннямі ўдзельнік канцэрту В. Рыжкоў. – Класна, што ўзаемаразуменне з залай было амаль поўнае. Узнікла ўражанне, што ў пэўных месцах Беларусі значна меней разумеюць беларускую мову, чым тут. І гэта прыемна шакуе. Шчыра ўдзячны арганізатарам за такі досвед!"

Мерапрыемства такога маштабу адбылося дзякуючы намаганням беларусаў, якія жывуць у Калінінградзе, пры падтрымцы ЗБС "Бацькаўшчына".

Святочныя мерапрыемствы да ўгодкаў беларускіх класікаў прайшлі і ў Кішынёве. Іх арганізавалі Беларуская абшчына ў Рэспубліцы Малдова сумесна з Пасольствам Беларусі ў Малдове. З нагоды ўрачыстасцяў была адкрытая выстава карцін Вячаслава Ігнацэнкі і мастацкіх фотапрацаў Ганны Мазур, што адчыніла свае дзверы ў Дэпартаменце міжэтнічных адносін Рэспублікі Малдова.

Усе прадстаўленыя на выставе працы мастакоў натхнёныя менавіта літаратурнымі вобразамі вялікіх беларускіх класікаў.

*Паводле budzma.org і Ганны Мазур*

# КАСТРЫЧНІЦКАЯ ІМПРЭЗА Ў ТБК ЛІТВЫ

27 кастрычніка ў ТБК адбылася чародная імпрэза, прысвечаная ўшанаванню памяці і ўспамінам пра культурных і грамадскіх дзеячаў, юбілеі якіх прыпадаюць на кастрычнік і чый лёс быў звязаны з Вільняй і Беларуссю. Гэта зрабілася ўжо традыцыяй, якая за апошнія пяць гадоў ні разу не перарывалася.

Пра жыццёвы шлях вялікага і мужнага беларускага патрыёта, які жыў амаль па суседстве, Міколу Рулінскага, распавяла Леакадзія Мілаш. Мікола Рулінскі вучыўся ў беларускай гімназіі, паходзіў з даволі заможнай сям'і, быў актывістам беларускага руху ў часе польскай акупацыі. Калі трэба было бараніць Беларусь і беларусаў, Мікола паступіў у вайсковы эскадрон Барыса Рагулі, быў афіцэрам БКА і служыў да 1944 года. З прыходам бальшавікоў быў арыштаваны і на доўгі тэрмін асуджаны. З гарбачоўскай адлігаю вярнуўся ў Літву і ўладкаваўся на паперную фабрыку ў Грыгішках. У Вільні ўдзельнічаў у станаўленні ТБК, быў актыўным чальцом, прысутнічаў на ўсіх імпрэзах таварыства. Меў здольнасці да паэзіі і спеву, але праз сціпласць свой талент не выкарыстаў. Удзельнічаў у сесіі еўрапейскай секцыі Рады БНР. На жаль, пасля няўдалай аперацыі, стан здароўя пагоршыўся, і 28 кастрычніка 2002 года Міколы Рулінскага не стала. Пахаваны ў Грыгішках.

Леакадзія Мілаш каротка расказала пра дыпламата і даследчыка Японіі і Кітая Іосіфа Гашкевіча, помнік якому пастаўлены на радзіме ў Астраўцы.

Палітолаг Артур Юдзіцкі распавёў пра палітычнае становішча ў Літве і Беларусі. Знакавай навіной, якая ўплывае на палітычнае поле Беларусі, спадар Юдзіцкі назваў атрыманне Саннікавым палітычнага прытулку ў Вялікабрытаніі. Пасля Міхалевіча гэта ўжо другі з кандыдатаў у прэзідэнты РБ на выбарах 2010 года, якія вымушаны жыць за мяжой. Яшчэ адзін з былых кандыдатаў – Статкевіч – знаходзіцца дасюль у турме, а некаторыя іншыя кандыдаты знаходзяцца пад прафілактычным наглядам КДБ.



*Палітолаг Артур Юдзіцкі*

Хведар Нюнька распавёў пра асабістае знаёмства з доктарам гістарычных навук, археолагам і грамадскім дзеячам Міхасём Ткачовым, 20-годдзе з дня смерці якога адзначылі ў ТБК.

Ад імя БХД партыі з прывітальным словам на імпрэзе выступіла сябра партыі, каардынатар праекта "Пакаянне" Валерыя Чарнаморцава. Яна перадала прывітанне ад кіраўніцтва БХД.

Валерыя выказала сваю любоў да дарагой кожнаму беларусу Вільні. Яна прыехала з групай турыстаў з Беларусі, каб прысутнічаць на канцэрце "Ляпіс Трубяцкой".

Пра жыццё і беларускую дзейнасць мастака Яўгена Куліка распавяла мастачка Крыстына Балаховіч. Яўген Кулік рана памёр, але шмат паспеў зрабіць дзеля адраджэння бацькаўшчыны Беларусі. У сваім выступе Крыстына таксама адзначыла, што 6 кастрычніка споўнілася 250 гадоў, як мястэчка Мядзел атрымала магдэбурскае права.

*Паводле аглядальніка ТБК у Вільні*

IN MEMORIAM

# БАЖЭНА ЯДВІГА КУЛЕШ-ШЫБОЎСКАЯ (1953–2012)



Сябры рады парафіі святога Кірылы Тураўскага ў Таронта глыбока засмучаны весткай аб смерці Бажэны Ядвігі Кулеш-Шыбоўскай (15.10.1953 – 15.10.2012) і выказваюць шчырыя спачуванні спадарыні Марыі Ганько, мужу Бажэны Ядвігі Андрэю і дачцэ Марце.

Гэтая трагедыя закранула да глыбіні душы ўсіх, хто ведаў Бажэну – светлую, жыццялюбную, прыгожую жанчыну, цудоўную маці, жонку, пляменніцу.

Светлая памяць табе, Бажэна!

*Таронта, 2012*

МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" выказвае шчырыя спачуванні сваякам і блізкім спачылай. Мір светлы яе душы!

# БЕЛАРУСКАЕ МАСТАЦТВА НА САМАРСКАЙ ЗЯМЛІ

У сярэдняй школе № 82 гарадской акругі Самара, дзе 26 кастрычніка яркім гала-канцэртам завяршыўся VIII Беларускі дзіцячы фестываль мастацтваў "Беларусь – мая песня!", які набыў статус штогадовага і стаў візітнай карткай Рэспублікі Беларусь і беларускага мастацтва ў Самарскай вобласці.

Творчы форум мастацтва Беларусі ў Самары ўжо традыцыйна праходзіў у межах народнага беларускага свята "Апошняга снапа" ("Дажынкі").

Асаблівасць правядзення фестывалю ў гэтым годзе, паводле словаў Ірыны Глускай, прэзідэнта Самарскай абласной грамадскай арганізацыі "Руска-беларускае братэрства-2000", якая яшчэ ў 2004 годзе выступіла з ініцыятывай праводзіць у Самары гэты фестываль, заключаецца ў тым, што ён праходзіць у год, які ў Беларусі абвешчаны Годам кнігі. Сёлета мы адзначаем яшчэ 130-годдзе з дня нараджэння Янкі Купалы і Якуба Коласа і 100-годдзе з дня нараджэння Максіма Танка.

"Улічваючы, што ў календары цэлы россып юбілейных дат, абавязковай умовай сёлетняга фестывалю, – кажа Ірына Глуская, – было ўключэнне твораў класікаў беларускай літаратуры ў конкурсныя нумары ўдзельнікаў".

Сёлета ў фестывальнай праграме ўзялі ўдзел дзіцячыя самадзейныя калектывы і салісты з агульнаадукацыйных, музычных школ і школ мастацтваў Самарскай вобласці, якія прадставілі ў сваіх нумарах багатыя традыцыі і звычаі беларускай культуры.

У цэлым праграма гала-канцэрта ўключала больш за 30 нумароў, а ў самім канцэрце ў розных намінацыях удзельнічала больш за 70 дзяцей розных нацыянальнасцяў і ўзростаў.

Усе ўдзельнікі атрымалі граматы, а лаўрэаты былі адзначаныя Дыпломамі VIII Абласнога беларускага дзіцячага фестывалю мастацтваў "Беларусь - мая песня!" за высокае выканальніцкае майстэрства і ўнёсак у папулярызацыю беларускай культуры на Самарскай зямлі.

*Паводле Мікалая Бойкі*

## У ЯРАСЛАЎЛІ АДКРЫЎСЯ КЛУБ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ І КУЛЬТУРЫ "СПАДЧЫНА"

У Яраслаўлі ўжо 20 гадоў існуе "Цэнтр беларускай культуры. Музей М. Багдановіча", пры ім амаль 15 гадоў працуе грамадская арганізацыя руска-беларускай дружбы "Сяброўства". У доме класіка беларускай літаратуры беларусы – частыя госці. Жыццё тут цікавае: адзначаюцца народныя святы, праходзяць канцэрты, прыходзяць і запрашаюць сюды землякоў на дні на-



раджэння і вясельны картэж беларусаў не праязджае міма гэтага гасціннага дома.

У сцены музея прыходзяць маладыя беларусы, каб далучыцца да сваіх каранёў. Ёсць тут і бібліятэка беларускіх выданняў, і фанатэка, і відэазапісы рэканструяваных абрадаў, і беларускія касцюмы, ручнікі. Моладзь даўно хацела зрабіць свае сустрэчы рэгулярнымі, спазнаваць родную культуру, вывучаць мову, спасцігаць традыцыйныя промыслы. І тады паўстала першая і галоўная цяжкасць: выкладчыкаў беларускай мовы і вопытных даследчыкаў, якія спецыялізуюцца на беларускай культуры ў Яраслаўлі няма. Ды і хто будзе кожны тыдзень прыходзіць і займацца з вучнямі бясплатна? Рашэнне прыйшло ад саміх сцен дома. Як спасцігаў у Яраслаўлі спадчыну продкаў Максім Багдановіч? Самастойна, па кнігах.

З 4 кастрычніка ўдзельнікі клуба "Спадчына", якія жадаюць наблізіцца да беларускай культуры, удасканаліць мову, збіраюцца кожны тыдзень, размаўляюць, робяць даклады. Заканчваецца кожная сустрэча невялікай дыктоўкай. Дапамогу ў рабоце клуба аказваюць беларусы, курсанты Яраслаўскага філіяла Ваенна-касмічнай акадэміі імя А. Ф. Мажайскага.

Удзельнікі гуртка збіраюцца не толькі для сумеснай падрыхтоўкі заняткаў, але кожны выказвае свае погляды на беларускую літаратуру, гісторыю, тэатральныя пастаноўкі, тэлеперадачы, фільмы.

Да невялікага гурточка моладзі, які пачаў гэтую цікавую справу, цяпер далучаецца ўсё больш старэйшых людзей, якія захоўваюць родную мову. Яраслаўскі ансамбль беларускай песні "Крыніца" таксама не застаецца ўбаку ад сходаў "Спадчыны".

*Паводле музея Максіма Багдановіча*

## ВІНШАВАННІ

### ВІНШАВАННЕ СЯБРАЎ ВЯЛІКАЙ РАДЫ

Маем гонар павіншаваць з Днём нараджэння сябраў Вялікай Рады Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына", якія нарадзіліся ў снежні: Радзіма Гарэцкага (Беларусь), Паўла Севярынца (Беларусь), Надзею Дробіну (Канада), Міхася Андрасюка (Польшча) і Станіслава Шушкевіча (Беларусь). Зычым сонечнага настрою, шчасця, прыемных падзеяў і добрага здароўя!

18 снежня свой юбілей святкуе Вячаслаў Сіўчыкаў. Віншуем шаноўнага юбіляра са святам, зычым плёну ў працы, добрага настрою і моцнага здароўя!



*Управа МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*

## У АСТАНЕ АДКРЫТЫ БЕЛАРУСКІ ЦЭНТР МОВЫ І КУЛЬТУРЫ

Ён будзе дзейнічаць пры Еўразійскім нацыянальным універсітэце імя Льва Гумілёва.

Паводле агенцтва Казінфарм, цырымонія адбылася 9 лістапада ў межах візіту беларускай урадавай дэлегацыі ў Казахстан. Выступаючы на адкрыцці цэнтра, першы намеснік міністра адукацыі Беларусі Аляксандр Жук падкрэсліў, што народы дзвюх краін "заўсёды вызначаліся дружалюбнымі і давернымі адносінамі". "Адкрыццё Цэнтра казахскай мовы, гісторыі і культуры ў траўні гэтага года ў Мінску і стварэнне беларускага цэнтра ў Астане — гэта сімвалічна і лагічна", — заявіў Жук.

Гэты цэнтр, паводле словаў намесніка міністра, "дасць магчымасць казахстанскім студэнтам лепш пазнаёміцца з гісторыяй, культурай, традыцыямі і звычаямі беларускага народа", а таксама будзе спрыяць развіццю і ўмацаванню культурных і адукацыйных сувязяў паміж дзяржавамі.

*Паводле nn.by*

## У ВАРШАЎСКІМ УНІВЕРСІТЭЦЕ ПРЭЗЕНТАВАЛІ "ШЛЯХЦІЦА ЗАВАЛЬНЮ"

На кафедры беларусістыкі Варшаўскага ўніверсітэта прайшла прэзентацыя кнігі "Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях". Гэта чарговае перавыданне твора Яна Баршчэўскага, рэдактарам і перакладчыкам якога з'яўляецца літаратуразнаўца з Варшаўскага ўніверсітэта, прафесар Мікола Хаўстовіч. Сам пераклад быў зроблены Хаўстовічам яшчэ ў студэнцкія гады: "Гэта навуковае выданне, найбольш папраўленае, найбольш дакладнае. Студэнцкі пераклад ёсць студэнцкі пераклад – гэта перакладзена 20 гадоў назад, таму там былі такія моманты, якія варта было папраўіць. Тэкст Баршчэўскага – гэта правінцыйная польская мова, гэта не мова цэнтральнай ці Заходняй Польшчы, гэта мова Полаччыны і яна вельмі лёгка клалася на беларускую мову.

У кнізе змешчаны польскі і беларускі варыянты тэксту Яна Баршчэўскага. Як адзначыў падчас прэзентацыі Мікола Хаўстовіч, выданне „Шляхціца Завальні" рыхтуецца таксама ў выдавецтве "Логвінаў" у Мінску.

*racyja.eu*

# ВЫЙШАЎ ЗБОР ТВОРАЎ ЛЯВОНА САВЁНКА

Пабачыла свет новая кніга ў серыі "Галасы Айчыны" мінскага выдавецтва "Лімарыус".

Гэтым разам пад адной вокладкай сабраная літаратурная спадчына яшчэ аднаго аўтара, чый шлях скончыўся на эміграцыі. Аднак у адрозненне ад выдадзеных раней у гэтай серыі твораў Алеся Салаўя, Уладзіміра Дудзіцкага, Янкі Юхнаўца, фельетоны, нарысы, артыкулы і аповесць Лявона Савёнка напісаныя пераважна яшчэ да эміграцыі.

Такім чынам, у айчынную літаратурную прастору вяртаюцца найперш цікавыя тэксты міжваеннага і ваеннага часу, адметныя непаўторным аўтарскім гумарам.

Лявона Савёнка называлі "каралём фельетонаў". Ён нарадзіўся 26 чэрвеня 1897 г. у вёсцы Вялец (сёння Глыбоцкі раён Віцебскай вобласці), вучыўся ў Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі, якую скончыў, калі ўстанова эвакуявалася ў Смаленск. У 1920 г. прыехаў у Мінск, дзе ажаніўся з настаўніцай Апалоніяй Раткевіч. У 1920-х гг. працаваў у "Савецкай Беларусі", адкуль быў звольнены за беларускі нацыяналізм. Менавіта тыя гады былі асабліва плённыя на фельетоны. Тады ж у 1929 г. выйшаў адзіны зборнік на радзіме "Чароўная іголка", падпісаны псеўданімам Леанід Свэн. Творы з гэтага зборніка, а таксама іншыя публікацыі з перыёдыкаў, склалі аснову новага выдання.

У 1933 г. Лявон Савёнак быў арыштаваны на справе "Беларускага нацыянальнага цэнтра", высланы на шэсць гадоў у Сібір, а пазней у Комі АССР. Сям'я ж перабралася ў Крычаў. У 1939 г. журналіст вярнуўся ў Беларусь, настаўнічаў на Крычаўшчыне. Падчас нямецкай акупацыі працаваў у "Беларускай газеце". Прыкладна ў гэты час ён напісаў сваю сатырычную аповесць "Запіскі эмігранта (Дзённік Ів. Ів. Чужанінава)", што дасціпна адлюстроўвае жыццё шарагова беларуса пад акупацыяй.

Ад лета 1944 г. сям'я Савёнкаў выехала на эміграцыю. У паваеннай Нямеччыне Савёнак настаўнічаў, быў дырэктарам Беларускай гімназіі ў Остэргофене, стаў адным з ініцыятараў аднаўлення Рады БНР (пазней пакінуў Раду праз канфлікт з М. Абрамчыкам). У 1948 г. увайшоў у кансісторыю аднаўленай БАПЦ. Менавіта Лявон Савёнак быў адным з ініцыятараў заснавання газеты "Бацькаўшчына" ў Нямеччыне.

У 1950 г. ён выехаў у ЗША. Пасяліўся ў Памоне (Нью-Джэрсі), дзе займаўся сельскай гаспадаркай. Памёр 21 лютага 1974 г.

На эміграцыі ён амаль не пісаў.

У 1998 г. БІНіМ выдаў укладзены Лявонам Юрэвічам зборнік літаратурнай спадчыны Савёнка-Крывічаніна "Беларусізацыя пад №..." Новае ж мінскае выданне, складзенае сумесна Лявонам Юрэвічам і Ціханам Чарнякевічам і грунтоўна пракаментаванае апошнім, значна паўнейшае за папярэдняе. На сёння гэта самы поўны збор літаратурнай спадчыны Лявона Савёнка.

Кніга пабачыла свет дзякуючы падтрымцы сям'і Кіпеляў (Зора Кіпель была дачкой Лявона Савёнка). Успаміны Вітаўта Кіпеля, прысвечаныя Лявону Савёнку, пададзеныя ў прадмове да выдання. Таксама варта адзначыць, што ў дадатку змешчаныя ўспаміны Апалоніі Савёнак, якія ўтрымліваюць цікавыя згадкі пра беларускае літаратурнае жыццё ў Мінску ў 1920-х гг., а таксама ўнікальныя здымкі з сямейнага архіву.

*Наталля Гардзіенка, hardzin.livejournal.com*

# БЕЛАРУСКІ КАЛЯНДАР ПАМЯТНЫХ ДАТ НА СНЕЖАНЬ 2012 ГОДА

3 снежня – 105 гадоў таму ў в. Бязверхавічы (цяпер Слуцкі р-н) нарадзіўся Рыгор Крушына (сапр. Казак; 1907–1979), пісьменнік, грамадскі дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША.

4 снежня – 30 гадоў таму памёр Аркадзь Качан (1921–1982), грамадскі дзеяч, дзеяч эміграцыі ў Аўстраліі. Пахаваны на могілках Роквуд у Сіднеі (Аўстралія).

8 снежня – 90 гадоў таму, у 1922-м, у Вільні выйшаў першы нумар газеты "Наша будучыня" (выдавалася да 14 лютага 1923 г.). Рэдактар Л. Родзевіч.

11 снежня – 80 гадоў таму, у 1932-м, у Вільні выйшаў першы нумар газеты "Шлях" (выдавалася да 12 студзеня 1933 г.). Рэдактар К. Чартовіч.

13 снежня – 665 гадоў таму, у 1347-м, былі павешаны Яўстафій, адзін з трох віленскіх пакутнікаў.

14 снежня – 55 гадоў таму, у 1957-м, у газеце "Літаратура і мастацтва" з'явіўся артыкул Барыса Сачанкі "Шанаваць родную мову" — першае выступленне ў прэсе супраць русіфікацыі.

19 снежня – 20 гадоў таму, у 1992-м, у Мінску пачаўся Першы сход беларусаў блізкага замежжа, арганізаваны Згуртаваннем беларусаў свету "Бацькаўшчына" (доўжыўся два дні).

22 снежня – 80 гадоў таму, у 1932-м, у Вільні зарэгістраванае Таварыства беларускай асветы (ТБА) — культурна-асветная арганізацыя, якая дзейнічала ў Заходняй Беларусі ў 1932–1937 гг.

22 снежня – 75 гадоў таму ў турме НКУС г. Алматы (Казахстан) расстраляны Янка Вярсоцкі (1888–1937), каталіцкі святар, грамадскі дзеяч.

24 снежня – 70 гадоў таму ў Трасцянцы пад Мінскам нацыстамі застрэлены Вінцэнт Гадлеўскі (1898–1942), каталіцкі святар, адзін з кіраўнікоў беларускага нацыянальнага Супраціўлення, ідэолаг нацыянальнага руху.

25 снежня – Каляды (Божае Нараджэнне), паводле грыгарыянскага календара.

26 снежня – 55 гадоў таму на чыгуначнай станцыі Кіргайм (Бадэн-Вюртэнберг, Нямеччына) ад сардэчнага прыступу памёр Юры Сабалеўскі (1889–1957), палітычны дзеяч, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША. Пахаваны ў Мюнхене.

28 снежня – 85 гадоў таму, у 1927-м, у Вільні пачаўся І з'езд Таварыства беларускай школы (доўжыўся два дні).

31 снежня – 210 гадоў таму ў мяст. Падароск (цяпер Ваўкавыскі р-н) нарадзіўся Максімілян Рыла (1802–1848), філосаф, археолаг, каталіцкі місіянер на Блізкім Усходзе і ў Афрыцы.

**Беларусы ў свеце**
№11(127), лістапад 2012

Інфармацыйны бюлетэнь
МГА "ЗБС "Бацькаўшчына".
Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.

Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.
Падрыхтоўка матэрыялаў і вёрстка – А. Башарымава
Адказныя за нумар – Н. Шыдлоўская, А Макоўская
Наклад 250 асобнікаў

Адрас рэдакцыі:
вул. Кузьмы Чорнага, 31, офіс 906,
г. Мінск 220012, Рэспубліка Беларусь
www.zbsb.org
zbsb@tut.by

тэл./факс (+375 17) 200-70-27